


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 12 (40), 21 красавіка—4 траўня 1993 г. Цана 3 рублі


## У НУМАРЫ:

- 6 старонак
- Зноў «Стары горад»
- Наш мясцовы заапарк і...
- ...ТБ, кіно, тэатры

## Збор подпісаў працягваецца

**Рабочыя лакаматыўнага дэпо Віцебска збіраюць подпісы (пакуль сабрана болей 120) пад зваротам, у якім выкладзен шэраг патрабаванняў да беларускага парламента. Ніжэй мы падаем тэкст звароту.**

Народ Беларусі мае ўнікальную магчымасць, якая выпадае раз у некалькі стагоддзяў—будаваць сваю суверэнную дзяржаву. Нашу дзяржаву ўжо прызналі дзесяткі краін свету, з многімі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны.

Для таго, каб быць роўнай сярод роўных, Беларусь павінна быць нейтральнай і бяз'ядзернай, умацоўваць двухбаковыя ўзаемавыгадныя эканамічныя сувязі як з Расіяй, так і з краінамі блізкага і далёкага замежжа. Любы ваенны саюз—гэта незлічоныя пакуты беларускага народа і згуба суверэнітэта Беларусі.

Прычына сённяшняга цяжкага эканамічнага становішча Беларусі—настойлівае нежаданне кіраўніцтва Рэспублікі праводзіць эканамічныя рэформы ў інтарэсах шырокіх слаёў народа.

Пагэтаму мы лічым, што на агульнарэспубліканскі рэферэндум павінны быць вынесены наступныя пытанні: аб даверы Вярхоўнаму Савету; аб прыватнай уласнасці на зямлю; аб калектыўнай бяспецы.

## Абмяркуюць прыватызацыю

Сёння, 21 красавіка, працуе сесія Віцебскага гарадскога Савета. На парадку дня жыццёва важнае для віцьблян пытанне аб прыватызацыі гарадской камунальнай маёмасці.

Прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў горада адпраўляюцца на сесію, каб выказаць сваю думку па гэтаму пытанню. Яны маюць намер азнаёміць народных выбраннікаў са зваротам віцебскай дэмакратычнай грамадскасці да дэпутатаў, у якім прыводзяцца факты парушэння заканадаўства ў ходзе прыватызацыі ў Віцебску і які, дарэчы, быў апублікаваны ў мінулым нумары «Выбара».

*Пункт гледжання*

# «Кусаюцца» цэны. Каму баліць?

У Чашніках зніклі з прылаўкаў магазінаў танныя папяросы і цыгарэты. Па камерцыйнай цане ёсць. Ад «Беламора», «Астры» да «Сталічных», «Пятра І-га», «Мантаны».

Два месяцы назад на маіх вачах людзі бралі дзесяткамі блокаў «Астру» па цане ў 24 рублі. Пачак «Беламора» каштаваў у межах 10 рублёў. Я дурань, запасу не зрабіў. Хаця хіба наперад усяго назапасішся?

Днямі ў кароткай чарзе за хлебам кінулася ў вочы, што некаторыя маладзіцы затарваюць у вязлізныя сумкі па 5—10 боханаў. Хлеб, канечне ж, не ў запас бяруць. А толькі таму, што ён танны. Кілаграм фуражнага зерня ў пяць разоў больш каштуе, чым бохан хлеба.

Масла расхопліваюць. Бо ў Маскве на Беларускім вакзале, як нядаўна казалі па радыё, кілаграм яго каштуе звыш тысячы рублёў. На Берасцейшчыне, зноў па інфармацыі радыё, падчыстую «вымелі» з прылаўкаў моцнае спіртное. Бо ў суседняй Польшчы цэны на гарэлку зноў падскочылі, хаця і да гэтага былі ў два разы вышэй за нашы.

Межы нашай суверэннай дзяржавы «празрыстыя». Вось і чысцяць прылаўкі беларускіх магазінаў блізкія і далёкія суседзі, а таксама нашы «камерсанты».

Талоны, купоны, спажывецкія карткі, спісы на дэфіцыт—усё гэта, на думку ўладаў, павінна абараніць наш спажывецкі рынак. Ды не абараняе. Каго «кусаюць» сягоняшнія нашы цэны? Пенсіянераў перш за ўсё. Яшчэ—аграрнікаў, заработная плата ў якіх, бадай, на парадак ніжэй, чым у работнікаў прамысловасці, не кажучы пра камерцыйныя структуры.

Гэта толькі на першы погляд Беларусь можа лічыць сябе багатаю ў сённяшняй абстаноўцы нецывілізаванага рынку. У нашых крамах дастаткова прадуктаў харчавання. Ёсць нешта з вопраткі. І цэны адносна невысокія. Але задумаемся аб тым, чаму пераважная большасць насельніцтва не надта кідаецца да прылаўкаў, дзе каўбаса ляжыць па 300—400 рублёў за кілаграм? І цукар ляжыць некранутым па кошце каля трыста рублёў.

Адказ на гэтае пытанне просты. Не таму не кідаемся на далікатэсы, што заеліся. А таму, што нашы даходы і сукупныя, і індывідуальныя не дазваляюць значна раскашэльвацца.

Парламентам рэспублікі ўжо не аднаразова прымаліся захады па абароне спажывецкага рынку. Мясцовыя (Заканчэнне на 2-й стар.).

## Тэатральны марафон: вынікі




4.645.581 рубель—такая сума паступіла ў фонд тэатральнага марафону, праведзенага 27—28 сакавіка 1993 года з мэтай збору сродкаў на аднаўленне Старога Віцебска.

**ГРОШЫ ПЕРАЛІЧЫЛІ:**

| | |
|---|---|
| Фабрыка «Зара» | —50000 руб. |
| ВА «Кераміка» | —50000 руб. |
| Малочны камбінат | —50000 руб. |
| Саюз пісьменнікаў Беларусі | —5000 руб. |
| СП «Белвест» | —100000 руб. |
| Кафедра беларускай літаратуры педінстытута | —3000 руб. |
| Кніжны магазін «Светач» | —1600 руб. |
| Ветінстытут | —10000 руб. |
| Акцыянернае таварыства «Элтык» | —205000 руб. |
| МКП «ЛМ+МК» | —500000 руб. |
| АЛК «Лізінг-сервіс» | —100000 руб. |
| АП «Візас» | —50000 руб. |
| МПКП «Азімут» | —10000 руб. |
| ВА «Прадукты» | —10000 руб. |
| Мясакамбінат | —15000 руб. |
| Абкам прафсаюза работнікаў дзяржустаноў | —20000 руб. |
| Камбінат хлебапрадуктаў | —50000 руб. |
| АСК «ВітАСКО» | —60000 руб. |
| Выканаўчая дырэкцыя асацыяцыі «Зара» | —75000 руб. |
| ВРПКЦ «Аўтакран» | —100000 руб. |
| Абкам прафсаюза работнікаў культуры | —1000 руб. |
| Райкам прафсаюза Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі | —10000 руб. |
| Фабрыка мастацкіх вырабаў | —70000 руб. |
| Фонд развіцця культуры і мастацтва Міністэрства культуры Беларусі | —200000 руб. |
| Савет старшыняў прафкамаў прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці | —20000 руб. |
| ВПП «Хімпласт» | —50000 руб. |
| Міністэрства культуры Беларусі | —1000000 руб. |
| Кавярня «Тэатральная» | —50000 руб. |
| Фірма «Вячэрнія зоры» | —500000 руб. |
| Гандлёвы дом | —100000 руб. |
| Аблвыканкам | —1000000 руб. |

З іншых крыніц (прыватныя ахвяраванні, аўкцыён, продаж уваходных білетаў) паступіла 179.981 руб.

Паўтара мільёна рублёў перадаецца на аднаўленне Уваскрасенскай царквы. Астатнія сродкі вырашана скарыстаць на рэстаўрацыю будынка на скрыжаванні цяперашніх вуліц імя Суворава і Янкі Купалы, у якім размесціцца Музей тэатра.

**В. МАСЛЮК,**
**старшыня аргкамітэта тэатральнага марафону.**



З марафону. Тэатральны капуснік.

# ЗАЯВА

## ВЫКАНКАМА ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ

Нечарговая XI сесія Вярхоўнага Савета Беларусі ўсёй сілай камуністычна-наменклатурнай большасці дэпутацкага корпусу імкнецца ўцягнуць Беларусь у Пагадненне «Аб калектыўнай бяспецы», якое падпісана 15 мая 1992 г. у Ташкенце Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам і Узбекістанам, адкрыта пры гэтым ігнаруючы асноўныя палажэнні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, палажэнні ваеннай дактрыны аб нейтралітэце, бяз'ядзерным статусе і самастойным курсе Беларусі ў ваеннай палітыцы. Пад акампанемент аднастайна-прымітыўнага лямanту дырэктарау прадпрыемстваў т. зв. ВПК аб насоўваючымся сацыяльна-эканамічным краху ў прамысловасці, арганізаванага і зрэжысаванага бяздарнымі «дырыжорамі» з Савета Міністраў, робіцца ці не апошняя спроба адцягнуць увагу працоўных, усіх грамадзян Беларусі ад сапраўдных прычын такога становішча ў дзяржаве, калі большасць працоўнага люду і ветэранаў апынуліся на мяжы жабрацкага існавання.

Ігнаруючы магчымасці і перспектывы двухбаковага супрацоўніцтва Беларусі і Расіі ў ваенных пытаннях, у тым ліку ў вытворчасці ўзбраенняў і тэхнікі ваеннага прызначэння, падрыхтоўкі спецыялістаў і г. д., якія вынікаюць з падпісаных і ратыфікаваных Беларуссю двухбаковых дагавораў з Расіяй, кіруючая наменклатура Савета Міністраў і амаль цалкам зросшаяся з ёй большасць Вярхоўнага Савета ступілі на небяспечны шлях. Гэта шлях да ваеннага саюза з дзяржавай, якая адзіная ў сучаснай Еўропе праз пэўныя колы ўздымае пытанне аб пераглядзе межаў, з дзяржавамі, якія ўжо знаходзяцца ў стане грамадзянскіх ці рэгіянальных войнаў, дзяржавамі, якія ў блізкай перспектыве могуць быць уцягнуты ў гэтакія войны. Цана такога «саюза»—новы паток цынкавых дамавін з беларускімі хлопцамі, знявечаныя лёсы маладых людзей пасля невыносна цяжкай службы ў аддаленых і закінутых гарнізонах Далёкага Ўсходу, Поўначы, Забайкалля і г. д., ва ўмовах дэградуючай арміі, у якой ужо цяпер салдаты паміраюць ад дыстрафіі.

Для Вярхоўнага Савета наступае «момант ісціны». Калі дэпутаты падтрымаюць рашэнне аб далучэнні да Пагаднення «Аб калектыўнай бяспецы», яны фактычна перайдуць мяжу, за якой іх дзейнасць стане антынароднай і непазбежна будзе кваліфікавана як дзяржаўная здрада цяперашняму і наступным пакаленням народа Беларусі.

Перагляд ваеннай дактрыны праз чатыры месяцы пасля яе зацвярджэння ў Вярхоўным Савеце ці далучэнне да Пагаднення «Аб калектыўнай бяспецы» насуперак яе палажэнням нанясе непапраўную шкоду міжнароднаму аўтарытэту Беларусі, паставіць пад сумненне паслядоўнасць і прадказальнасць яе знешнепалітычнага курса і гатоўнасць выконваць добраахвотна ўзятыя на сябе абавязацельствы. Гэтае рашэнне можа паспрыяць істотным зменам у геапалітычным становішчы ў Еўропе, падштурхнуўшы нашых суседзяў у бок НАТА, што можа прывесці да непасрэднага памежнага кантаку двух ваеннапалітычных груповак. Гэта паставіць пад сумненне стварэнне «бяз'ядзернага поясу» ад Балтыйскага да Чорнага мораў, уключыць Беларусь у планы вайны іншых дзяржаў і ваенных блокаў.

Каб гэтага не здарылася, Вярхоўнаму Савету і яго старшыні трэба ўсяго толькі паважаць прынятыя імі раней рашэнні. У цяперашніх умовах гэта вельмі няпроста, але гэта адзіны спосаб быць годнымі сваіх высокіх званняў народных дэпутатаў Беларусі. Іншага не дадзена.

# Спытаць не толькі аб нейтралітэце

Магутнае ваеннае лобі, якое раней было дзяржавай у дзяржаве, карысталася аднадушнай падтрымкай камуністычных улад, атрымала ў камуністычным парламенце перамогу пры галасаванні аб далучэнні да ваенна-палітычнага саюза. Той, хто слухаў па радыё выступленне міністра абароны і яго прыхільнікаў, не мог не адчуць іх велізарную самаўпэўненасць у тым, што не існуе ніякай альтэрнатывы далучэнню да ваеннага блока, што любы іншы крок зробіць Беларусь ахвярай «крыважэрных» суседзяў.

Годзе, панове! Любому грамадзяніну, які здольны пасля падобных ініцыятыў задаць пытанне: «Каму гэта выгадна?», відавочны тыя інтарэсы, якія вы адстойвалі. Адстойвалі, магчыма, не злоўмысна, а ў выніку сваёй бальшавіцкай ментальнасці, з якой цяжка рухацца да прававой дэмакратычнай дзяржавы з канкурэнтнай эканомікай. Тры гады дзейнасці парламента пераканаўча гэта паказалі.

Вамі, панове, рухалі перш за ўсё інтарэсы таго монстра, задавальненню апетыту якога была раней падпарадкавана амаль уся палітыка і эканоміка. Нягледзячы на тое, што прадугледжваецца скарачэнне 50% беларускага войска (дарэчы аднаго з буйнейшых у Цэнтральнай Еўропе), лабісты лілі кракадзілавы слёзы аб магчымасці застацца з рагаткамі і пугачамі, калі не далучымся да калектыўнай бяспекі. Жахліва апавядалі аб ворагах, што пагражаюць Беларусі. У дыскусіі, здаецца, амаль не было лічбаў аб той дасткатковай тэхнічнай узброенасці арміі, якая будзе патрэбна, калі адбудзецца першы этап скарачэння. Не было інфармацыі і, здаецца, ніхто дакладна не жадае ведаць, колькі каштуе падаткаплацельшчыкам тая армія, аб якой мараць паны ваенныя. Ніхто з большасці ў парламенце не сказаў, колькі яшчэ часу ў жабрацтве будуць пенсіянеры, калі мы і далей будзем замест спажывецкіх тавараў вырабляць гарматы. Затое было шмат наіўных хадоў, магчыма, на якія паддалася частка тых, хто прагаласаваў «за».




Адзінае выйсце з гэтага тупіка—рэферэндум.

Актыўна прапагандавалася ідэя, што дзякуючы далучэнню мы будзем атрымліваць па таннаму кошту тэхніку, спецыялістаў, ваенныя заводы будуць мець заказы. А ў ваенны саюз увойдзем з агаворкамі—беларускія хлопцы ваяваць за інтарэсы саюзнікаў не будуць, саюзнікаў мы будзем кансультаваць і дапамагаць ім зброяй, а на сваю тэрыторыю іх войска пушчаць не будзем.

Ёсць народная мудрасць: «У чужую хату са сваім статутам не лезь». Парламент фактычна стаў тым парабкам, які наймаецца на работу, але ставіць гаспадару ўмову: я буду рабіць толькі тое, што пажадаю, а вы будзеце плаціць як я скажу. Не помню, калі такое было магчыма. Прабачце, такое магчыма, калі наступіць камунізм: ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбнасцях. Цяпер становяцца відавочнымі інтарэсы камуністычных рэваншыстаў. Аб іх інтарэсах можна доўга апавядаць, але пакуль устрымаюся.

Справа ж вось у чым. Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч зрабіў той мінімальны крок, які павінен быў зрабіць сумленны чалавек: прапанаваў вынесці пытанне аб нейтралітэце на рэферэндум. Калі народ не пажадае быць галодным і ўзброеным да зубоў, то ён падтрымае пазіцыю Шушкевіча і дэмакратычных сіл. Парламент апыніцца ў двухсэнсоўным становішчы: трэба юрыдычна прызнаць, што прадстаўнічая ўлада не ведае патрэб выбаршчыкаў і не можа іх прадстаўляць. Але артадаксальная камуністычная большасць належыць да тыпу людзей, пра якіх кажуць: «Ім плюй у вочы, а яны кажуць—дождж уночы». Зноў выйдзе Булахаў і «абгрунтуе» сацыяльны заказ наменклатуры—яшчэ на пару гадоў утрымаць крэслы, каб даведзены да галечы народ пажадаў вярнуцца ва ўтапічнае «сытае каўбаснае» мінулае... Большасць парламента зробіць выгляд: памылілася толькі ў імкненні да калектыўнай бяспекі, што яе неабгрунтавана абвінавачваюць у здрадзе інтарэсам Беларусі, а ў астатнім «усё добра, цудоўная маркіза».

Адначасова ўспомніць, што выбары вясной 1994 года—гэта канстытуцыйнае пытанне і ў свой час канстытуцыйнай большасці не атрымала, а таму трэба сядзець да 1995 года. Каб здзек над здаровым сэнсам не доўжыўся далей, трэба абавязкова выносіць на рэферэндум пытанне аб датэрміновых выбарах парламента восенню бягучага года. Гэта той крок, які спыніць спаўзанне грамадства ў бездань, дасць шанц народу быць гаспадаром на сваёй зямлі.

І тады перамога наменклатурнай большасці стане Піравай.

**Леанід ГАРАВЫ,**
**Гарадоцкі раён.**

# «Кусаюцца» цэны. Каму баліць?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

улады ў гэтым накірунку развіваюць ініцыятыву. Аднак усё беспаспяхова.

Уся справа ў тым, што спажывецкі рынак, згодна законаў рыначнай эканомікі, могуць абараніць толькі цэны. Узяць той жа хлеб. Сабекошт яго перавышае разы ў тры рознічную цану. Былі спробы ўзняць яго кошт. Ды нядоўга новыя цэны пратрымаліся. Сёння, калі пенсіянеры, студэнты, іншыя малазабяспечаныя грамадзяне рэспублікі стануць плаціць за хлеб нармальную цану, ім хопіць даходаў у літаральным сэнсе толькі на хлеб. А да хлеба і яшчэ штосьці трэба.

Згодна даных Дзяржкамстата спажыванне мяса, каўбасных вырабаў і так знізілася ў рэспубліцы да крытычнай мяжы.

З другога боку, калі наша эканоміка не будзе пастаўлена з галавы на ногі, яна ніколі рыначнай не стане. Закупачныя, аптовыя, рознічныя цэны перш за ўсё на прадукты харчавання павінны быць эканамічна абгрунтаванымі. Інакш неўзабаве зусім занепадуць калгасы і саўгасы, не будуць мець сродкаў для ўзнаўлення вытворчасці фермеры-пачаткоўцы.

Цэны павінны «кусацца». Сягоння яны «кусаюць» не таго, каго трэба.

Чашніцкі спажывецкі рынак найперш чашнічанам павінен служыць. Як і беларускі ў цэлым—беларусам.

У нашым раёне, як у іншых, развіваецца сістэма платнай медыцыны. А колькі іншых сацыяльных паслуг можна атрымаць за грошы? Адна бяда, што ўзяць іх няма дзе таму, каму гэтыя паслугі патрэбны.

Не знаходзіць прымянення і шэраг відаў нятаннай, хоць і якаснай, прадукцыі на Чашніччыне, якую выпускаюць прамысловыя прадпрыемствы раёна.

Падагульнім размову. Цяпер усім дрэнна. І калектывам грамадскіх гаспадарак, і фермерам, і кааператарам, і працаўнікам прамысловасці. І нам, спажыўцам, не салодка. Верагодна, дзяржава павінна даць пенсіянерам, студэнтам, іншым стыпендыятам гэтулькі грошай, каб яны маглі не баяцца «кусаючых» цэнаў. Астатнім, працаздольным, павінна быць прадастаўлена магчымасць зарабляць столькі, каб хапіла не толькі на жыццёва неабходныя хлеб, каўбасу, але і на цыгарэты заставалася.

У пэўным сэнсе ўмовы, каб зарабляць, і ад кожнага з нас залежаць, і ад мясцовых уладаў. Трэба працаваць над іх стварэннем. Наш уплыў на агульную палітыку дзяржавы таксама можа быць больш моцным. Галоўнае, ведаць бы нам, куды ідзём, і ў якім баку той загадкавы рынак.

**П. НЕСЦЯРОНАК,**
**г. Чашнікі.**

**Іван ЛАЗУКА**

## Мне кажуць...

Мне кажуць: «Пішы пра каханне.
Можаш яшчэ пра прыроду.
І крыж лепш пастаў на пісанні
Аб тым, як жывецца народу.

Жывецца ні тлуста, ні п'яна,—
Ці ж гэта цяпер навіна?
Навошта шукаць пастаянна
Чыя ва ўсім гэтым віна?»

Навошта? Ды, думаю, трэба,
Як трэба нам ведаць цану
Кавалачку кожнаму хлеба,
І кожнаму светламу дню.

Няхай дэмагог асуджае,—
Не скіне ён шоры з вачэй...
Вясна, нас вясна абуджае,
Каб памяць палала ярчэй.




● ВЫПУСК № 4 ● СТАРОНКА ВІЦЕБСКАГА КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАГА КЛУБА «УЗГОР'Е» ● ВЫПУСК № 4 ●

# Князі Агінскія ў Віцебску



**Мал. 1.** Герб князя Льва Самуіла Агінскага.

Агульнавядома, што прадстаўнікі княжацкага роду Агінскіх у XVI—XVIII ст.ст. адыгрывалі значную ролю ў жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Імёны дзяржаўных дзеячаў, ваяроў, мецэнатаў, музыкантаў, што паходзілі з гэтага роду, складаюць гонар і славу Беларусі. На жаль, Агінскія выгаслі на пачатку XX ст., а гісторыя роду сёння вядома толькі спецыялістам.

Якое дачыненне мелі князі Агінскія да Віцебска? Аказваецца, самае непасрэднае. Тры пакаленні славутага роду жылі ў нашым горадзе. Першым з вядомых нам віцебскіх Агінскіх быў князь Леў Самуіл. Пляц і дом пана Самуіла Агінскага «у замку яго каралеўскай мосці Віцебскім Ніжнім» згадваецца ўжо ў дакументах 1627 г.

Што гэта быў за чалавек? Чым захапляўся? Як выглядаў? На жаль, мы сёння не можам адказаць на ўсе гэтыя пытанні, бо вельмі мала старых дакументаў захавалася да нашага часу. Аднак сёетое ў асобе князя праглядаецца нават скрозь тоўшчу вякоў. Так, у 1642 г. Самуіл Агінскі і яго жонка Соф'я Бялевічава зрабілі фундушовы запіс на аднаўленне праваслаўнага Маркава манастыра ў Віцебску, за што імя князя было ўпісана ў манастырскі сінодзік побач з імем інака Марка—заснавальніка манастыра. Пабожнасць была ўвогуле ў традыцыях усёй сям'і Агінскіх. Бацька Самуіла князь Багдан, напрыклад, пасля закрыцця віленскай друкарні пры манастыры Святога Духа ў сваім маёнтку Еўе наладзіў выпуск кніг дыдактычнага і рэлігійнага зместу. Таму зусім не выпадковымі трэба лічыць словы панегірыка, напісанага на герб князя Самуіла—старажытны кляйнот роду Агінскіх (мал. 1):

Крест роздартый гойности знаком завше бывал,
Месяц з звездою к небу дорогу указывал
Врембов до фундаменту церкви заживано,—
Стрелами засъ отчизны значне обороняно.
Тым клейнотом Огинскии здавна ся щитили,
Гдыж богу, церкви верне отчизне служили.

У Самуіла Агінскага было два сыны і чатыры дачкі. Аднаму з сыноў—Сымону-Каралю—наканавана было стаць віцебскім падкаморым і застацца на сталае жыхарства ў нашым горадзе. Гэта быў адукаваны чалавек, на пачатку ён вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, а пазней—у Галандыі. Існуе нават гіпотэза, што з Сымона-Караля Агінскага вялікі Рэмбрандт напісаў партрэт (карціна «Салдат конніцы Лісоўскага»). Нягледзячы на тое, што Сымон-Караль сам стаў уніятам, згодна з тэстаментам бацькоў ён працягваў клапаціцца аб лёсе праваслаўнага Маркава манастыра і пабудаваў там на свае сродкі драўляную царкву ў гонар Святой Троіцы, што радавала вока віцьблян дасканаласцю форм ажно да 1920-х гадоў, калі была знішчана.

Дзякуючы толькі шчаслівай выпадковасці мы можам сёння бачыць, як выглядаў у XVII ст. дом князёў Агінскіх у Віцебску. Выява яго захавалася на «Чарцяжы места Віцебска» 1664 г., які ў свой час быў зроблены рускім ваяводай Якавам Валконскім і адпраўлены на зацвярджэнне ў Маскву да цара Аляксея Міхайлавіча. У маскоўскіх архівах «Чарцёж» праляжаў да пачатку XX ст., дзе яго і знайшоў даследчык віцебскіх старажытнасцей А. Сапуноў. Дом Агінскага (мал. 2) размяшчаўся ў раёне сучаснай пл. Свабоды, на пачатку пр. Фрунзе. Нельга не падзівіцца на яго адметнае архітэктурнае аблічча. Высокая шмат'ярусная вежа, завершаная шатром і складаным купалам са шпілем ды сцяжком флюгера над ім, высокая знадворная лесвіца ганка, што вяла да гранёнай яруснай вежы з шатровым завяршэннем, адкрытыя ажурныя галерэі, ступенчаты абрыс трохвугольнага шчыта—усё гэта стварала непаўторны і надзвычай цікавы вобраз будынка, які на працягу XVII—XVIII ст. ст. з'яўляўся своеасаблівым архітэктурным сімвалам Віцебска. Згадкі некаторых даследчыкаў пра тое, што дом Агінскага існаваў яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. і быў вядомы пад назвай «дома з купалам», з'яўляюцца памылковымі. Так званы «дом з купалам» на пачатку сучаснага пр. Фрунзе быў пабудаваны ў першае дзесяцігоддзе XIX ст. віцебскімі езуітамі побач або на падмурках былога дома Агінскіх. У ім размяшчалася езуіцкае вучылішча, дзе апроч класаў і кабінетаў у круглай зале верхняга паверха знаходзіўся тэатр. «Дом з купалам» быў зруйнаваны ўжо к канцу XIX ст.

Аднак самай цікавай асобай з роду Агінскіх, што жылі ў Віцебску, уяўляецца, безумоўна, асоба князя Марцыяна Міхала, сына Сымона-Караля, які быў на пачатку віцебскім кашталянам, а потым і ваяводай. Свае вайсковыя абавязкі ён выконваў спраўна і не аднойчы ўдала бараніў Віцебск ад рускіх войскаў. Магчыма, маючы намер зрабіць Віцебскае ваяводства галоўным месцам пражывання сваіх нашчадкаў, Марцыян Агінскі намагаўсяператварыць свае прыватныя маёнткі ў мястэчкі, а з цягам часу—і ў невялікія гарады. Так, напрыклад, маёнтак Веляшковічы ён задумаў зрабіць горадам пад назваю Руская Варшава і з гэтай нагоды ў 1724 г. выдаў спецыяльны прывілей «усім мяшчанам і рознага звання людзям», што жадалі б пасяліцца ў новым горадзе, на палёгку ад падаткаў і права бязмытнага гандлю. Аналагічны прывілей тычыўся і «горада Калышкі».

Марцыян Агінскі меў асобны палац у Лукішках, аднак жыў пераважна ў сваім маёнтку Марцыянаве недалёка ад Віцебска. Працягваючы старадаўнюю традыцыю заможнага магнацкага роду, ён выступіў фундатарам бернардзінскага касцёла ў Мікуліне, кляштара кармелітаў у Вільні. У 1716 г. на сучаснай пл. Свабоды езуіты Віцебскай калегіі пачалі ўзводзіць мураваныя будынкі свайго касцёла і кляштара. Езуіцкі касцёл у гонар Св. Юзафа (фота 1) быў пабудаваны галоўным чынам на сродкі ваяводы Марцыяна Агінскага. 3 жніўня 1731 г. адбылася працэдура ўрачыстага ўводу абраза Св. Юзафа ў Віцебскі касцёл езуітаў, у якой, вядома, удзельнічаў і князь-фундатар. Вялебныя ксяндзы-езуіты пераўтварылі гэтае мерапрыемства ў сапраўдны спектакль, які перакінуўся на вуліцы горада. Вось якая справаздача аб ім была зроблена ў газеце «Кур'ер Польскі»: «У прызначаны час пачалося пампезнае шэсце, якое адчынялі харугва мясцовага магістрата і святочна апранутыя прадстаўнікі гарадскіх цэхаў. У цэнтры працэсіі знаходзілася трыумфальная калясніца, на якой быў уладкаваны абраз, драпіраваны расшытымі золатам тканінамі. Шэсце суправаджалася залпамі з ручной зброі і салютамі гармат, што размяшчаліся ў Верхнім замку. Працэсія спынілася перад трыумфальнай аркай, і ваявода Марцыян Агінскі з некалькімі саноўнікамі зняў абраз з калясніцы і адправіў яго да вялікага алтара. Прагучаў паздзячны касцёльны гімн «Te Deum» і пачалося набажэнства пры гуках капэлы, што была размешчана на двух хорах».

Буйныя магнаты звычайна рабілі свае фамільныя склепы ў якім-небудзь вялікім храме, узведзеным на іх сродкі. Найбольш знакамітай сёння на Беларусі з'яўляецца грабніца князёў Радзівілаў у былым езуіцкім касцёле ў Нясвіжы. У Віцебскім езуіцкім касцёле меў намер зрабіць фамільны склеп і Марцыян Міхал Агінскі. Тут былі пахаваны дзве яго жонкі і сам князь пасля смерці ў 1750 г. Аднак задуме гэтай не было наканавана здзейсніцца. Дзеці Марцыяна Агінскага разляцеліся з Віцебска ў розныя бакі, шукаючы сабе шчасця ў іншых гарадах і краінах.

Віцебскія езуіты адпраўлялі набажэнствы ў сваім касцёле да 1820 г., пакуль іх ордэн загадам цара не быў забаронены ў межах Расійскай імперыі. Пасля гэтай падзеі касцёл зачынілі, а ўсіх манахаў-езуітаў выслалі за мяжу. З цягам часу ўвесь комплекс былой езуіцкай калегіі разам з касцёлам быў перададзены праваслаўным. Былы касцёл Св. Юзафа стаў называцца Мікалаеўскім саборам, у памяшканнях былой калегіі размясціўся архіерэйскі дом. У кучу будаўнічага смецця і друзу сабор быў ператвораны ў канцы 1950-х гадоў (фотаматэрыялы аб яго знішчэнні гл. у папярэдніх выпусках «Старога горада»).

Пакрысе сярэднявечная гісторыя горада вяртаецца да віцьблян. Разам з ёй вяртаецца памяць пра Стары Горад, а значыць—і надзея на будучыню.

**Л. ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**



**Мал. 2.** Дом князя Агінскага паводле «Чарцяжа» Віцебска 1664 г.



**Фота 1.** Езуіцкі касцёл у Віцебску.

# Прытулюся да роднай маці-мовы

## ПОМНІК БУДЗЕ?

Ах, Беларусь, мая ты доля,
Мая сляза і пацалунак,
Маё ў бярозках белых поле
Мой песнямі набіты
клунак.

Імя тваё дае мне сілы,
Хоць не хвалюся я табою—
Як пацалункам самым
мілым,
Як самай горкаю слязою.

**Е. Лось, «Ах, Беларусь...»**

Сярод многіх талентаў, якіх дала свету Віцебшчына, пачэснае месца займае імя Еўдакіі Лось—выдатнага літаратара, сапраўднай патрыёткі нашай Бацькаўшчыны-Беларусі. Нарадзілася яна ў сакавіку 1929 года ў вёсцы Старына, што на Ушаччыне. Мабыць, таму і першую сваю кнігу яна назвала «Сакавік» (1958). Потым выйшлі зборнікі яе паэтычных твораў «Палачанка» (1962), «Людзі добрыя» (1963), «Хараство» (1965), «Перавал» (1971), «Галінка з яблыкам» (1979) і іншыя. Выходзілі і кнігі прозы: «Пацеркі» (1966), «Травіца брат-сястрыца» (1970). Шмат пісала яна і для дзяцей: зборнікі вершаў «Абутая елачка» (1961), «Казка пра Ласку» (1963), «Зайчык-выхваляйчык» (1970) і іншыя. Апошняя прыжыццёвая кніга паэтэсы «Лірыка ліпеня» выйшла ў 77-ым, незадоўга да яе заўчаснай смерці.

Вядомы беларускі крытык і літаратуразнаўца Алег Лойка так піша ў кнізе «Паэзія і час»: «У працы Е. Лось была апантанаю, нястомнаю. Валявая, нават не без крутасці, ўся ў завастрэнні на паэзію, лірычна-чуллівая, яна, цалкам выкладаючыся ў вершах, гэтак жа безаглядна магла патрабаваць увагі да сваёй працы... Е. Лось, як большасць яе аднагодкаў у літаратуры, за скразную тэму сваёй лірыкі мела тэму Бацькаўшчыны, любові да роднай Беларусі, паэтычны вобраз любай яе сэрцу Ушаччыны—зямлі продкаў...»

Нагадаем, што Еўдакія Лось—з той жа генерацыі, што і Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін. З пакалення, дзяцінства якога было абпалена агнём Другой сусветнай. На той вайне загінуў брат будучай паэтэсы; у акупацыі, у 1942 годзе, памёр яе бацька. Таму, як і іншыя паэты гэтага пакалення, Лось у сваёй творчасці шмат пісала пра мінулую вайну. Але ў яе паэзіі ёсць і шмат адметнага, своеасаблівага. Вось што адзначае А. Лойка: «...Як ніхто з яе аднагодкаў у паэзіі, у сваёй патрыятычнай лірыцы Е. Лось падняла тэму беларусаў у шырокім свеце, Беларусі ў шырокім свеце (вершы «Землякі», «Мінская вуліца ў Брно», «Пад шум картлійскага дажджу...», «Бацькам Грыцаўца», «Кляновае лісце Канады», «Яснавокія мальвы»). І—сёння бачна—з поўным правам на гэта паэтэса сказала: «На зайздрасць іншым, удалася любоў да Бацькаўшчыны мне...»

Як жа аддзячыла Радзіма сваёй таленавітай дачцэ? Нядаўна «Выбар» атрымаў ліст з Менска ад роднай сястры Еўдакіі Лось Марыі Якаўлеўны Ярашэвіч. Сястра пісьменніцы адзначае, што на Ушаччыне помняць славутую зямлячку: вуліца і завулак носяць яе імя, цэнтральная раённая бібліятэка таксама названа яе імем. Сёе-тое зроблена і ў Віцебску: імя Еўдакіі Лось прысвоена адной з маленькіх вулачак на ўскраіне горада. Марыя Якаўлеўна піша, што некалькі год назад адным з віцебскім скульптараў быў выраблены помнік паэтэсе, які меркавалася ўстанавіць на вуліцы яе імя. «Але вось ужо прайшло шмат гадоў, а пра помнік паэтэсе нічога не чуваць»,— шкадуе М. Ярашэвіч і дадае: «Тады мы былі згодны з жыхарамі вулачкі, якія сказалі: «Вядомая паэтэса, наша зямлячка, заслужыла лепшай вуліцы...»

Каб праясніць праблему, ваш карэспандэнт сустрэўся з некаторымі адказнымі асобамі Віцебска. Загадчык аддзела культуры В. Кібісаў заявіў, што было адпаведнае ўказанне ўпраўленню архітэктуры. Скульптар В. Магучы пацвердзіў, што работу над помнікам-бюстам Еўдакіі Лось ён закончыў некалькі год назад. Галоўны мастак горада В. Рыбакоў паведаміў, што помнік гатовы, зараз на камбінаце спецабслугоўвання рыхтуецца граніт для п'едэстала. Устанавіць яго мяркуецца гэтым летам, адначасова з помнікам У. Караткевічу. Галоўны мастак паскардзіўся на недахоп фінансавых сродкаў.

Наконт назвы вуліцы старшыня грамадскай камісіі па вяртанню гістарычнай спадчыны пры гарвыканкаме Г. Мезэнка адзначыла, што гэтая камісія выступае супраць надання вуліцам Віцебска новых назваў, але за вяртанне ім спрадвечных гістарычных тапонімаў. Так, вуліцы К. Маркса, пра якую гаворыцца ў пісьме М. Ярашэвіч' мяркуецца вярнуць гістарычную назву Манастырская.

Ёсць у Еўдакіі Лось верш «У Віцебску».

У Віцебску—усе свае:
І хто куе, і хто малюе...
І песня, што зямляк пяе,
Мацней за іншыя хвалюе.

І слова сэрцу даражэй
З-за дыялектнае аздобы.
І ранішні прамень рыжэй,
Чым золата вышэйшай
пробы!

У Віцебску жыве рака,
І недзе ў ёй струменьчык
скача
З таго святога раўчука,
Што называецца—Ушача...

Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе ў Віцебску з'явіцца помнік нашай таленавітай зямлячцы, выдатнай паэтэсе. Імя якой назаўсёды засталося ў гісторыі беларускай літаратуры.

**А. БУКАЧОЎ.**

**Ад рэдакцыі:** Спадзяёмся, што кіраўніцтва Віцебскага гарвыканкама знойдзе фінансы для добраўпарадкавання вуліцы імя Е. Лось і ўстаноўкі помніка паэтцы.

*Вучым дзетак роднай мове*

**Ягор КАСЯКОЎ**

### Калабок

*Пекар выпек калабок,*
*Патрымаў яго за бок*
*І паклаў на дно талеркі,*
*Дзе раней былі цукеркі.*

*А пакуль вады напіўся—*
*Калабок з яе скаціўся.*
*Вецер дзьмуў сюды даўно,*
*Бо адчынена акно.*

*Пад акном рахманы коцік*
*Грэў на сонейку жывоцік.*
*Мяккі, цёплы калабок*
*Падкаціўся незнарок.*

*Коцік кажа калабку:*
*«Даю лапку сябруку».*
*Калабок дружыць згадзіўся.*
*Перад сябрам пакаціўся.*

### Пажар

*Да спякоты сонца грэла,*
*Потым неба спахмурнела.*
*Паляцелі стужкі з хмар,*
*Нежаданы ўзнік пажар.*

*Пеўнік голасна крычыць:*
*«Караўул! Страха гарыць.*
*Коцік, дружа, памажы,*
*Напраскі сюды бяжы!»*

*Коцік быў адсюль далёка—*
*За адлегласцю для зрока.*
*Але пеўніка пачуў,*
*Пэўна, вецер туды дзьмуў.*

*Ён і сам забіў трывогу*
*Кліча качак на падмогу:*
*«Вы бярыце больш вады,*
*Каб пазбавіцца бяды».*

*Птушкі хуценька з вадой*
*Прыляцелі грамадой,*
*Разам крыламі ўзмахнулі*
*І агонь зусім задзьмулі.*

*Дзякуй, добрыя сябры.*
*Зноў спакойна на двары.*
*Пеўнік весела жыве,*
*Часта песенькі пяе.*



Разышліся і зніклі кругі...

**Іван ЛАЗУКА**

### Кругі на вадзе

*Там, на плёсе, дзе човен*
*плавае,*
*Разыходзяцца ціха кругі.*
*Мне шаптала Дзвіна*
*ласкавая:*
*—Не забудзь жа мае берагі...*

*Не забуду. Дык як жа*
*забыцца*
*На чаромхавы край дарагі?*
*Вось і сёння я там як быццам,*
*Дзе вясёлкавыя лугі.*

*Дзе Дзвіна, як заўжды,*
*чуллівая,*
*Пахнуць мёдам наўкол*
*мурагі...*

*Па вадзе ад вясла гуллівага*
*Разышліся і зніклі кругі.*

## Вядзьмак Лысагорскі — меншы ведае, што кажа

**Палку ананімнай беларускай сатырычнай літаратуры прыбыло. Да вядомых «Энеіды навыварат», «Тараса на Парнасе», «Сказа пра Лысую гару» і іншых дадаўся «Сказ пра Яфрэма Сакалова і тайную вячэру» ў першым нумары сёлетняй «Бібліятэкі «Вожыка».**

Літаратурны й духоўны пераемнік Ведзьмака Лысагорскага—Вядзьмак Лысагорскі-меншы «шпурляе» «Сказам пра Яфрэма...» камень у кампартыйны агарод, які парос пустазеллем сакаловых, пячэннікавых, чыкіных... Дастаецца й іншым падобным «раслінам»: аўтар прыбівае іх да зямлі каменьчыкам меншага памеру— «Сказам пра Саўку Паўлава і групу хуткага адпору». Але «паміраюць» яны на старонках кніжачкі з «музыкай». Для іх «гучыць» «Гімн гвардыі «Политического собеседника».

Зважаючы на жаданне ўсіх стаць заможнымі, Вядзьмак дае нам—простым, невучоным—вось такую параду ў сваіх занатоўках «Як хочаш, дык пакорпайся ў дэпутацкім корпусе»:

Калі хочаш быць багатым—
Выбірайся дэпутатам.
А як станеш старшынёй,
Забяспечышся раднёй.
Не пустой мець будзеш
міску,
Ды яшчэ кватэру ў Мінску,
І машыну, і зарплату,
Як паложана па штату.
Сёй-той так і зрабіў.

Пагэтаму—

Вось і маем акурат
Той жа самы апарат,
Той жа самы лад
мышыны—
Сакратаркі, штат, машыны.
Многа крыкаў, многа
звонаў,
Мала лыка і законаў.

Аднак, мяркуе-прадказвае наш Вядзьмак, можа стацца горш.

Орган наш заканадаўчы
Хутка ўспомніць і пра
дачы,
Пра курорты і буфеты,
Што былі ў былыя леты...

А «калі моўчкі сцерпім», то галота ды бядота не мінуць нас:

Гэтак будзе, будзе, будзе.
І браточкі - дэпутаты
Прынясуць нам толькі
страты.

**БР. МАЛОДШЫ.**

*«Базары» для «птушкі», а заапаркі для звяроў*

# Рыгус і Касія просяць аб дапамозе

Нядаўна па запрашэнню дырэктара Віцебскага заапарка Жанны Качаноўскай я наведаў гэты куточак жывой прыроды. Прыемна здзівіла бясконцая любоў Жанны да сваіх гадаванцаў. З якой радасцю і захапленнем яна расказвала пра кожнага з іх!

На пачатку экскурсіі па заапарку, як і павінна быць, нас вітаў цар звяроў—леў Рыгус. Месца яго нараджэння—Рыга, адсюль і імя. (А вы ведаеце, як па знешняму выгляду адрозніць афрыканскага льва ад азіяцкага? Прыдзіце ў заапарк—даведаецеся). Потым пазнаёміўся з мядзведзіцай Касіяй (нарадзілася ў Чаркасах). Жывуць тут і лісічка Чапа, вярблюдзіца Соф'я Міхайлаўна (або проста Соня), вослік Яшка, малпы Сёма і Фунцік – маленькі, папугаі. У адной клетцы ўжываюцца арлан-белахвост і беркут. Тут жа дзве маленькія аўстралійскія дрэўныя жабкі. Ёсць прыгожыя паўлінавыя голубы. Некалькі дзікабразаў, лось, гусак, яноты і многа кага яшчэ.

Расказвае Жанна Качаноўская: «У наш час людзям складана пражыць, а што казаць пра жывёл? Бывае няпроста забяспечыць нашых гадаванцаў паўнацэннай ежай. Таму вымушаны былі з некаторымі развітацца. Напрыклад, у нас было чатыры мядзведзі, засталася адна Касія, астатніх прадалі ў іншыя заапаркі. Але мы не скардзімся на цяжкасці. Галоўнае, каб пра нас ведалі віцябляне і ішлі да нас, прыводзілі дзяцей. Бо толькі ў зносінах з жывой прыродай можна выхаваць гуманную асобу, чалавека, які здольны спачуваць. У наш час усеагульнай лютасці гэта асабліва важна».



Няволя. Фота А. Мемуса.

Аказваецца, заапарк у нашым горадзе існуе з сакавіка мінулага года. Раней гэта быў тэатр звяроў. Але і па сённяшні, нягледзячы на тое, што статус установы змяніўся, жывёлы знаходзяцца ў цесных, непрыстасаваных памяшканнях на вул. Крылова. Праўда, у апошні час ёсць змяненні да лепшага. Заапарку выдзелены 25-ці гектарны ўчастак ва Уланавічах. Затрымка за малым—патрэбна яго абгарадзіць. А вось сродкаў на бетонную агароджу ў заапарка няма. Пра гэту праблему ўжо расказвала ў сакавіку газета «Віцьбічы». Але пакуль зрухі нязначныя. Кіраўніцтва заапарка шукае спонсараў. Згодна размясціць на агароджы рэкламу тых фірмаў і прадпрыемстваў, якія дапамогуць, устанавіць ільготы для супрацоўнікаў і іх дзяцей пры наведванні заапарка. А хіба не цікава будзе малым прагуляцца на конях па заапарку? Менавіта конныя прагулкі па новаму заапарку мяркуе арганізаваць яго дырэктар. А жывёлы, у адрозненне ад цяперашняга стану, таксама будуць жыць у прасторных вальерах. Гэта будзе амаль вольнае ўтрыманне. На сезонных работах па нагляду за жывёламі, на нарыхтоўцы кармоў дзеці будуць карысна бавіць час ды змогуць тоесёе падзарабіць.

У заключэнне—некалькі лічбаў, якія паведаміла Ж. Качаноўская. У Японіі цяпер—52 заапаркі, у Германіі—72, у Беларусі—толькі адзін—гародзенскі. І вось цяпер як быццам ёсць заапарк і ў нас. Але тое, што знаходзіцца на вул. Крылова, назваць заапаркам у поўным сэнсе слова ў мяне язык яшчэ не паварочваецца.

18 сакавіка г. г. у «Віцьбічах» змешчана заметка «Зоопарк в наследство». Там адзначана, што ў гарвыканкама няма сродкаў, каб фінансаваць будаўніцтва заапарка ў раёне Уланавіч. Затое ў Міністэрства культуры і ў Віцебскага гарвыканкама ёсць грошы на правядзенне розных «славянскіх базараў». Напэўна, чыноўнікі ад культуры лічаць, што падобныя «базары» прыносяць людзям, і асабліва дзецям, больш карысці, чым зносіны з жывой прыродай. Я ж думаю інакш.

Пакідаючы віцебскі заапарк, я зноў падышоў да цеснай клеткі, у якой з кутка ў куток кідаўся прыгажун Рыгус: два крокі туды—два назад, уперад і зноў назад. На нейкі момант нашы погляды сустрэліся. І падалося, быццам сам позіркам леў прасіў да дапамозе...

**А. МІКОЛАЎ.**

*З гісторыі нашага краю*

## А Пятру не далі

Травень 1701 г. У Віцебск прыехаў па падатку для Рыгі камісар караля Рэчы Паспалітай Рыпіньскі. Ён сабраў з віцебскіх купцоў ды мяшчан 64 тысячы бітых талераў. Манета гэтая вагой каля 30 гр. (з чаго 25—срэбра) хадзіла тады па ўсёй Еўропе.

Грошы, а іх агульная вага склала каля 2 тон, пагрузілі на стругі. На іх жа заладавалі яшчэ пяньку й канаплю коштам сто тысяч талераў.

За такія шчодрыя выплаты кароль на 7 гадоў вызваліў места ад падаткаў.

Рускі ж цар Пётр І, калі прыехаў у Віцебск, не атрымаў такога багацця. Дык ён, як сведчыць летапіс, 17 верасня 1708 г. спаліў горад разам з 34 касцёламі і 12 царквамі.

## Бровар, кухня і... сем моў

10 чэрвеня 1812 г. у Полацку адкрылася езуіцкая акадэмія (на правах універсітэта). Падчас урачыстасцяў прынеслі 70 штандараў з гербамі падначаленых Расіі гарадоў і абласцей, грамату на залатой падушцы. Апошнюю разам з вершамі прачыталі на 7 мовах.

Як і чаму там вучылі? То тэма для іншае гутаркі.

Цікава вось што.

У падвальных паверхах будынку былі бровар, гарэлачны завод і медаварня. І, напэўна, нідзе не было такіх мядоў, гарэлак і стольких гатункаў настоек дый налівак, як тут! Гэтыя напіткі караванамі адпраўляліся вядомым панам у Пецярбург і Віцебск, а таксама генерал-губернатару Беларусі герцагу Вюртэнбергскаму і нават у Крым, Пацёмкіну.

У акадэміі была і добрая кухня, якая славілася дужым уменнем кухароў гатаваць вэндліну, вэнджаныя рыбу і дзвінскія цырты. Зараз ніхто з кулінараў не ведае, што такое цырты. Можа хто з чытачоў чуў пра іх ці знае рэцэпт?

## Калі вернуць каштоўнасці?

Летась адзначалася тысячагоддзе хрысціянства на Беларусі. Яно звязана і з імем слаўнай Еўфрасінні Полацкай.

Але не зважаючы на вялікі юбілей як грамадзянін пытаюся: чаму праваслаўны сабор, што знаходзіцца ў Пецярбургу, не вярнуў Полацку абраз Адзігітрыі, які для Еўфрасінні даставілі са старажытнага Эфеса воіны візантыйскага імператара Мануіла?

У полацкім Спаса-Еўфрасіннеўскім саборы знаходзяцца мошчы св. Еўфрасінні. Пасля іх вяртання на Беларусь яны з 1910 года захоўваліся ў спецыяльнай кіпарысавай рацы, багата і прыгожа аздобленай. Яна была зроблена на ахвяраванні вернікаў, каштавала тады 12 тысяч рублёў і важыла 40 пудоў. Але зараз рака ў адным з пскоўскіх манастыроў.

Ці вернуцца гэтыя каштоўнасці на нашую зямлю? Калі?

У Яраслаўска-Растоўскім музеі знаходзіцца падробка знакамітага крыжа Еўфрасінні. Дык можа вярнуць яго, пакуль не адшукаюць арыгінал?

**М. БУНТО,**
**выкладчык гісторыі ПТВ-96 г. Віцебска.**

*Весткі з раёнаў*

### У БАРАЦЬБЕ

**за нейтралітэт...**

Рубаўскія прыхільнікі дэмакратыі накіравалі ў Вярхоўны Савет краіны тэлеграму з пратэстам супраць ідэі вайсковага саюза Беларусі з іншымі дзяржавамі. Тэлеграму падпісалі 57 чалавек.

**...за культуру...**

У Лепелі прайшоў трохдзённы абласны семінар работнікаў культуры. Праграма імпрэзы была насычанай і цікавай.

**...за чытача**

Напэўна, «Гарадоцкі веснік» стане ў другім паўгоддзі рэкардсменам па колькасці падпісчыкаў сярод раёнак вобласці. Падпісная цана газеты захавалася ранейшай—96 (дзевяноста шэсць) рублёў.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

# У віцяблянаў—трэці шлях?

У Менску адбылася чацвёртая канферэнцыя Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі. На ёй абраны новы склад Вышняй рады. Старшынёю партыі выбраны сп. Апрышка, а яго намеснікамі сп.сп. Навуменка, Грынкевіч і Лецка.

На канферэнцыі зроблены змены ў Статуце, прыняты Зварот да народа, парламента й урада, дэкларацыя аб сучасным становішчы на Беларусі.

Трэба адзначыць, што на партканферэнцыю не прыехалі дэлегаты з многіх мясцінаў. Не малую ролю ў гэтым, мусіць, адыграў раскол у шэрагах нацыянал-дэмакратаў. Радыкальнае крыло адкалолася ад партыі, утварыла паралельную структуру НДПБ. Яна вядзе актыўны прыём у свае рады і таксама зладзіла канферэнцыю.

Дарэчы, па неафіцыйных звестках, прадстаўнікі віцебскай нацыянальнай дэмакратыі не ўдзельнічалі ні ў адной з апошніх канферэнцыяў: ні радыкалаў, ні платформы «стрыманых».

**Назіральнік.**

## ДЗЕТКА

25 красавіка спаўняецца 60 гадоў ідэі Настаўніка П. К. Іванова (на здымку). З гэтае нагоды да нас звярнуліся з калектыўным (42 подпісы) лістом сябры віцебскага клуба «Дзетка». Яны сцвярджаюць, што пісьмо трапіла «па адрасу», бо «дэмакраты—гэтаксама людзі, а дэмакратыя—не толькі палітыка, але й жыццё вольнае, незалежнае».

Па іх просьбе мы друкуем парады Настаўніка і падаем для зацікаўленых адрас клуба: 210026, г. Віцебск, вул. 5-я Садовая, 16, клуб «Дзетка».



1. Два разы ў дзень купайся ў халоднай прыроднай вадзе, каб табе было добра. Купайся ў чым можаш: у возеры, рэчцы, ваннай, прымай душ ці абливайся. Гэта твае ўмовы. Гарачае купанне завяршы халодным.
2. Перад купаннем ці пасля яго, а калі мажліва, то й сумесна з ім, выйдзі на прыроду, устань босымі нагамі на зямлю, а зімой на снег, хаця б на 1—2 хвіліны. Удыхні праз рот некалькі разоў паветра і ў думках пажадай сабе ды ўсім людзям здароўя.
3. Не ўжывай алкаголь і не палі.
4. Старайся хоць раз у тыдзень поўнасцю абыходзіцца без ежы і вады з пятніцы 18—20 гадзін да нядзелі 12-ці гадзін. Гэта твае заслугі й пакой. Калі табе цяжка, то трымайся хаця б суткі.
5. А 12 гадзіне дня нядзелі выйдзі на прыроду басанож і колькі разоў падыхай і падумай, як напісана вышэй. Гэта свята тваёй справы. Пасля гэтага можаш есці ўсё, што табе падабаецца.
6. Любі акаляючую цябе прыроду. Не плюйся вакол і не выплёўвай з сябе нічога. Прывыкайся да гэтага: то тваё здароўе.
7. Вітайся з усімі і ўсюды, асабліва з людзьмі пажылога ўзросту. Хочаш мець у сябе здароўе—вітайся з усімі.
8. Дапамагай людзям, чым можаш, асабліва беднаму, хвораму, паўкрыўджанаму, таму, хто жыве ў нястачы. Рабі гэтае з радасцю. Адклікайся на ягоныя патрэбы душою і сэрцам. Ты набываеш у ім сябра і дапамагаеш справе МІРУ!
9. Перамажы ў сабе прагнасць, ляноту, самазадаволенасць, скнарнасць, страх, крывадушнасць, гордасць. Вер людзям і любі іх. Не кажы пра іх несправядліва і не прымай блізка да сэрца нядобрых меркаванняў аб іх.
10. Вызвалі сваю галаву ад думак пра хваробы, недамаганні, смерць. Гэта твая перамога.
11. Думку не аддзяляй ад справы. Прачытаў—добра, але самае галоўнае—РАБІ!
12. Расказвай і перадавай вопыт гэтай справы, але не хваліся і не ўзвышайся ў гэтым. Будзь сціплым.

Я прашу, я малю ўсіх людзей: станавіся і займай сваё месца ў прыродзе. Яно нікім не занятае і не купляецца ні за якія грошы, а толькі ўласнымі справамі й працаю ў прыродзе дзеля свайго дабра, каб табе было лёгка.

**Парфірый Карнеевіч ІВАНОЎ.**



# БСДГ на з'ездзе ЭСДП

У Таліне прайшоў трэці з'езд Эстонскай сацыял-дэмакратычнай партыі. На ім прысутнічаў амаль кожны другі сябра партыі. Гасцямі з'езду былі прадстаўнікі Лейбарысцкай партыі Вялікабрытаніі, Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі, Сацыял-дэмакратычнай партыі Даніі, Італьянскай дэмакратычнай партыі левых сілаў, Латвійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, Летувіскай сацыял-дэмакратычнай партыі, Рабочай партыі Нарвегіі, Расійскага сацыял-дэмакратычнага цэнтру, Сацыял-дэмакратычнай партыі Украіны, Сацыял-дэмакратычнай партыі Фінляндыі, Сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Швецыі, а таксама Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

З палітычным дакладам на з'ездзе выступіла старшыня партыі Мар'ю Лаўрысцін. Заслуханы і абмеркаваны даклад аб праграме ЭСДП. Адбыліся сустрэчы і гутаркі прадстаўніка БСДГ, сябры выканкама А. Сідарэвіча з М. Лаўрысцін, І. Карлсанам, (Швецыя), У. Штэйрам (Нямеччына), А. Сакаласам (Летува), Л. Дэйдулісам (Латвія), А. Дзагаці і Дж. Брусаско (Італія), Ю. Бауманам (Украіна), Д. Панкіным (Расія).

**М. КАЛІНОЎСКІ.**

## Дзецюкі ратавалі горад

Не паспелі яшчэ зацерціся ў кругаверці падзей ураджані ад незвычайнага начнога адкрыцця прыватнай мастацкай галерэі «У Пушкіна», а яна ўжо разам з Беларускім фондам культуры ды сябрамі культурна-асветніцкага клуба «Узгор'е» зладзіла новую акцыю.

Або іншымі словамі, суботнік па адраджэнню старога места. У ім удзельнічалі дзесяткі дзяўчат і хлопцаў, якім не абыякавы лёс роднага Віцебска, ягонай гістарычнай часткі.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**



Тамрыко. Акварэль А. МЕМУСА (1991 г.).

## *Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня*

**СЕРАДА, 21 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

9.30 і 21.35. «Мачаха».
11.10. «Задыяк».
13.40. «Не будзі сабаку, які спіць».

**Канал «Астанкіна»**

8.40 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Мёртвыя душы». 3-я і 4-я серыі.

**Канал «Расія»**

11.10 і 19.35. «Санта-Барбара».
13.25. «Дзяўчынка з горада».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.10. «Мая другая мама».
10.05 і 23.00. «Піквікскі клуб». 1-я і 2-я серыя.

**ЧАЦВЕР, 22 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

9.05 і 21.35. «Мачаха».
13.40. «Леў Гурыч Сінічкін».

**Канал «Астанкіна»**

8.35 і 18.00. «Проста Марыя».
11.20. «Мёртвыя душы». 5-я серыя.
12.45. «Чайка».

**Канал «Расія»**

11.00 і 19.25. «Санта-Барбара».
13.25. «Трыццаць тры».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.20. «Піквікскі клуб». 2-я серыя.
20.50. «Мая другая мама».

**ПЯТНІЦА, 23 красавіка**

**Беларускае тэлебачанне**

9.30. «Мачаха».
11.45. «Нядзельны тата».
13.40. «Паны авантурысты».
16.45. «Кола», «Лёгкі хлеб».
21.35. «Меладрама» (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

8.50 і 15.10. «Мой сябар Сакрацік».

**Канал «Расія»**

11.05. «Санта-Барбара».
16.55. «Сасланы на планету Зямля». 7-я серыя.
19.25. «Забіць дракона».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Мая другая мама».
12.55. «Небыліца».
23.00. «Фізікі».

**СУБОТА, 24 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

8.20. «Меладрама» (Францыя).
13.40. «Дэфіцыт» (Балгарыя).
21.35. «Ледзі Джэйн» (Вялікабрытанія).

**Канал «Астанкіна»**

11.05. «Незабыўны 1919-ы».
18.45. «Секс-пастка» (ЗША).
20.40. «Ганна Карэніна» (ЗША). 3-я серыя.

**Канал «Расія»**

17.45 і 19.25. «Люстэрка для героя». 1-я і 2-я серыі.
23.30. «Закаханы па ўласным жаданні».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Шчаслівчык».
13.15. «Каб быць шчаслівым».
15.15. «Дзяўчына й гранд».
20.40. «Мая другая мама».

**НЯДЗЕЛЯ, 25 КРАСАВІКА**

**Беларускае тэлебачанне**

9.40. «Мачаха».
21.05. «Луізіана» (Канада, Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

11.05. «Прыгоды Чорнага Прыгажуна».
18.25. «Калі святыя маршыруюць».

**Канал «Расія»**

11.20. «Пацалунак Мэры Пікфард».
19.35. «Дагары нагамі» (ЗША).

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

17.05. «Лісткі аўтабіяграфіі».

## *У кінатэатрах горада з 21 да 25 красавіка*

**«БЕЛАРУСЬ»**

**«Вайна ніндзя»** (ЗША). 9.40, 11.30, 13.20, 15.10, 17.00, 18.50, 20.40.
**«Мая мама—пярэваранецъ»** (ЗША, малая зала). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
Аўтаадказчык 14028.

**«СПАРТАК»**

**«Люмп».** 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30.
Аўтаадказчык 365121.

**«КАСТРЫЧНІК»**

**«Красуня»** (ЗША). 9.40, 11.50, 14.00, 16.10, 18.20, 20.30.
Аўтаадказчык 365544.

**«БРЫГАНЦІНА»**

**«Фінальны альянс»** (ЗША). 14.15, 16.00, 17.45, 19.30, 21.15.
**«Жандар з Сен-Трапеза»** (Францыя). 10.15, 15.45, 17.30, 19.20, 21.05.
**Мультфільмы** 11.45, 13.00.
**«Кожны паляўнічы жадае ведаць».** 9.00, 10.20.
**«Марыя Мірабела».** 9.05, 12.00, 13.15, 14.30.
Аўтаадказчык 18179.

**«МІР»**

**«Знесеныя ветрам»** (ЗША). 10.10, 14.00, 18.00.
**«Тата—мой палюбоўнік»** (Францыя). 11.25, 16.30, 20.00.
**«Паляўнічыя за монстрамі»** (Аргенціна). 9.50, 13.20, 14.55, 18.25.

**«УСХОД»**

**«Спакуса»** (Італія). 14.00, 15.40, 17.20, 19.00, 20.35.
Аўтаадказчык 332916.

**Відэатэатр «ВІЦЬБА»**

Аўтаадказчык 14945.

## Рэпертуар беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа

**21 красавіка** «Хачу здымацца ў кіно»
**22 красавіка** «Касатка»
**23 красавіка** «Залёты»
**24 красавіка** «Шчаслівае здарэнне»
**25 красавіка** «Рэвізор»
**28 красавіка** «Залёты»
**29 красавіка** «Кошчын дом», пачатак у 10 гадз. і 12 гадз. 30 хв. «Касатка».
**30 красавіка** «Касатка»

Пачатак вячэрніх спектакляў а 19 гадз.
Даведкі па тэл.: **36-06-80, 36-00-43.**

## Рэпертуар Беларускага тэатра «Лялька»

**22—23 красавіка** «Церамок»
**24 красавіка** «Церамок», пачатак у 11 гадз.
**28—30 красавіка** «Церамок»

Пачатак спектакляў а 9 гадз. 30 хв. і 11 гадз. у кінатэатры «Брыганціна».
Даведкі па тэл.: **36-90-77, 36-29-22.**



## Вясёлы глобус

—Ты ведаеш, Франц, Мюлер назваў мяне ідыётам.
—Не звяртай увагі. Проста ён паўтарае тое, аб чым гавораць усе.

* * *

—Які юбілей мы будзем адзначаць пасля сярэбранага вяселля?
—Трыццацігадовай вайны.

**Наступны нумар газеты выйдзе 5 траўня.**




Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

Мастак Р. Клікушын. Фотаздымкі М. Міхайлава.
Адрас рэдакцыі: 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
Тэл. 37-35-06, 37-28-44.





Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.

Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.

Выходзіць штотыднёва па серадах

Нумар падпісаны да друку 20.04.93 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**